Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| | | |
|---|---|---|
| **Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** **Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).** Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

№. 19 Вільня, Серада, 23-га чэрвеня 1926 г. Год I.

## „87“.

Варшаўскія газэты падалі ўжо галоўныя пажаданьні новага ўраду, каторы, як кожнаму тое ведама, выражае волю Пілсудскага.

Вось-ж а ўрад жадае ад Сойму перш-на-першы зьмены канстытуцыі ў наступным напрамку:

1) каб Прэзыдэнт мог у кожным часе сваей уладай распусьціць парлямант (Сойм і Сэнат);

2) каб мог бяз Сойму выдаваць законы, калі Сойм не засядае;

3) каб мог палажыць пратэст на кожную пастанову Сойму. Гэтая апратэставаная пастанова мусіла-б быць зацьверджанай Соймам на-нова.

Таўкуцца па газэтах яшчэ погаласкі, што для апрацоўваньня і ахвармоўкі тых законаў, каторыя Прэзыдэнт будзе выдаваць бяз Сойму, вызначыць ён з лічбы выдатных юрыстаў Дзяржаўную Раду....

Ясна, што ўсе гэтыя зьмены імкнуцца да абмежаваньня ўлады выбарных парлямэнцкіх устаноў (Сойму і Сэнату) і да перадачы яе аднэй асобе—Прэзыдэнту.

Калі-б і на гэты раз Сойм аказаўся паслушным перад пагрозай бізуна і ўсе пералічаныя пажаданьні маршалка Пілсудскага зацьвярдзіў, дык палітычныя адносіны ў Польшчы зрабіліся-бы падобнымі да царска-расейскіх. У дарэвалюцыйнай Расеі цар разганяў Думу, калі хацеў, выдаваў усе найбольш шкодныя для народу законы на аснове 87 стацьці аснаўных законаў і адным расчыркам пяра зьніштажаў кожную непажаданую для яго пастанову Думы.

Якое-ж становішча да гэтых дамаганьняў п. Пілсудскага мусяць заняць сьвядомыя сяляне і работнікі, асабліва беларусы?

Абарона парлямантарызму наагул, а польскага соймавага баламутцтва асабліва, не ўваходзіла і ня будзе ўваходзіць ніколі ў нашу праграму. — Як усюды, так і ў Польшчы, Сойм—гэта „дэмакратычная“ заслона, за каторай умацоўваецца дыктатарская ўлада фабрыкантаў і абшарнікаў. Пры істнаваньні гэтай улады ўся соймавая траскатня—гэта пажарныя струі вады, скіраваныя на тушэньне ўсіх вогнішч сялянска-работніцкай вызвольнай барацьбы.

Нельга, аднак, запярэчыць, што, покі ўся ўлада спачывае ў руках буржуазіі,—Сойм, выбіраны на падставе агульнага і роўнага выбарнага закону, працоўныя мусяць лічыць за сваю *здобыч*: праз Сойм сяляне і работнікі могуць хоць трохі кантраляваць рабункову гаспадарку буржуазіі, могуць *бачыць* і *крычаць*. А ў варунках цяперашняга „правапарадку“на землях Заходняе Беларусі Сойм стаўся адзіным месцам, гдзе хоць час ад часу можа раздавацца голас пратэсту проці тых крыўд, якія робіцца нашаму сялянству і работнікам.

Кулацка-абшарніцкі ўрад Вітаса нічога больш і не хацеў, як толькі замкнуць сялянам і работнікам горла, каб сваімі скаргамі не перашкаджалі паном забаўляціся.

Пілсудскі запратэставаў... удэрыў, узяў уладу. Угадоўцы ўсіх партыяў, ужо імем Пілсудскага самавольна наабяцалі народу і зямлю, і стварэньне сялянска-работніцкае ўлады, пры каторай буржуазная гаварыльня (Сойм) была-бы лішняй. А вось на дзеле дык замест таго і другога новы ўрад суліць нам узнаўленьне старой расейскай 87 стацьці....

Аб гэтакіх крэпкіх замкох на сялянскія скаргі паны абшарнікі і фабрыканты ня сьмелі думаць у найбольш тайных сваіх пажаданьнях. Ня дзіва, што яны ўсё больш яўна падтрымліваюць „бунтарскі“ ўрад п. Маршалка. Дык у сялян усё крапчэе ў галавах думка, што і „бунт“ гэты ўвесь зроблены быў нечыяй хітрай рукой толькі дзеля вока. Шкада толькі, што сяляне лішне дорага за гэта заплацілі: 400 трупаў, больш тысячы раненых... Гэта—цяжкі рахунак навет за тую навуку, якую дасталі пры гэтым працоўныя! Трэбуючы-ж ад Сойму царскіх паўнамоцтваў, новы ўрад хоча яшчэ падбаўкі да таго рахунку...

П. Пілсудскаму Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада сваіх правоў пэўне-ж не аддасьць. Бо сялянам і работнікам роўна будзе балець, калі бізуном увасрозуміць 87 стацьці будзе біць Польшча, як балела, калі біў гэтым самым бізуном ліхое памяці Мікола II. Тым балей, што той біў перадусім „інародцаў“, тады яшчэ і палякоў, і п. Пілсудскага,—а цяпер у палажэньні „інародцаў“ у Польшчы знаходзімся якраз мы, беларусы....

## Крызіс у „сялянскай“ ідэолёгіі.

Пасол Беларускага Клюбу і правадыр „Сялянскага Саюзу“—Рагуля зрабіў у м. Любчы—мітынг.

На мітынгу пасол Рагуля, як піша „Сялянская Ніва“ (№ 17), граміў буржуазную гаспадарку сучаснай Польшчы і даказываў няздарнасьць буржуазіі адбудаваць гаспадарчае жыцьцё краю.

Слушна казаў ён далей, што абшарнікі і фабрыканты ніколі не дадуць сялянам ані зямлі бяз выкупу, ані грошаў на адбудову гаспадаркі (хоць падаткі бяруць), ані волі ў дэмакратычным самаўрадзе.

Яшчэ больш цікавы вывад пасла Рагулі, які, паводлуг газэты, гаварыу гэтак: „каб усё гэта зрабіць (здабыць зямлю і г. д.), трэба дабівацца сялянска-работніцкага ўраду. **Толькі селянін і работнік, ідучы ў поруч, могуць выкаваць сабе лепшую долю.** Гэта можа зьдзейсьніцца толькі тады, калі сяляне згуртуюцца ў свой сялянскі саюз, і гэты саюз падасьць руку саюзу мястовых работнікаў, і разам пойдуць здабываць лепшую долю. **Ні селянін без работніка, ні работнік без селяніна нічога не здабудзе**“.

Закончыў пасол Рагуля сваю прамову славамі: „а калі ж вы заўважыце, што я вас прадаю, то тады падзякуйце мне вось як: прыйдзіце і скажэце: ты нас здрадзіў, і вось табе падзяка—маеш табе атруты... А я вып'ю і лягу трупам“.

Так гаворыць пасол Рагуля з сялянамі.

---

Апрача дзеяльнасьці пасла—агітатара,—п. Рагуля супольна з п. Ярэмічам выдаюць газэту „Сялянская Ніва“. Седзючы далёка ад вёскі ў габінэце, маючы час (асабліва, калі газэта выходзіць раз на тыдзень), можна ясьней выразіць усё, што і як запраўды думаеш і чуеш. Газэтная праца — яшчэ больш адказная, бо пісанае слова даходзіць і да тых, хто ня быў на мітынгу, хто мо' толькі з газэты хоча навучыцца, „як жыць і як уміраць“. Паглядзім дзеля гэтага, чаго-ж вучыў да апошняга нумару „Сялянскай Нівы“ сваіх чытачоў пан Рагуля.

У № 1 „Сялянскай Нівы“ памешчаны першы ідэолёгічна-праграмны артыкул „аб сялянскай ідэолёгіі“. Ідэолёгія, як ведама,—душа партыі, з якой плыве ўсё чыннае жыцьцё.

У гэтым артыкуле пасол Рагуля піша, што амаль на ўсім сьвеце работнік здабыў сабе палітычныя правы і сілу, якіх сялянства яшчэ ня мае. Што-ж — гэта праўда. „Арганізуйцеся сяляне, — заклікае ён,—тады здабудзеце ўсё і вы“. І гэта праўда!..

Але ў тым самым нумары чытаем далей: усюды, дзе работнікі здабылі гэтыя правы, яны карыстаюцца сілай **на шкоду сялянству**. А як карыстаецца сваей уладай работніцкая кляса — паказывае п. Рагуля на прыклад СССР. Там, захапіўшы ўладу, работнікі „ня плацяць падаткаў... зваліваючы ўвесь цяжар утрыманьня дзяржавы на плечы селяніна“.

У іншым месцы сказана яшчэ больш ясна: „і ў другіх дзяржавах Эўропы — усюды работнік хоча чым менш працаваць, ускладываючы чым большы цяжар на селяніна. Ідэолёгі работніцкай клясы сацыялісты ды камуністы хочуць,—як ён піша, — адабраць у селяніна зямлю, зрабіць з іх вялікія двары — фабрыкі і ганяць туды сілай, як да прыгону, мужыка“.

Ці не зразумела пасьля гэтага, што з такім **ворагам** (работнікам) сялянства можа і мусіць весьці пільную, вострую і рашучую абрацьбу?!

**Да гэтай барацьбы і заклікае пасол Рагуля, з гэтай мэтай і закладзены ўвесь „Сялянскі Саюз“.**

---

Можна было падумаць напачатку, што „Сялянскі Саюз“ проста не прадумаў таго, што робіць. Можна было спадзявацца, што пасьля „лазьні“, якую дала яму „Беларуская Ніва“,—Сялянскі Саюз зразумее свае абмылкі. Але вышла ня тое. Чым далей, тым больш паглыбляла газэта п. п. Рагулі і Ярэміча „сялянскую ідэолёгію“, аснованую на недаверы і ненавісьці да пралетарыяту, на падзеле тых сацыяльных сілаў, якія п. Рагуля на мітынгу ў Любчы называе перад сялянамі саюзьнікамі ў барацьбе...

Дамо яшчэ толькі пару цытат, якія слухачам мітынгу ў Любчы трэба добра запамятаць ды абмазгаваць.

На закід у тым, што газэта Сялянскага Саюзу дзеліць сялян і работнікаў, у № 9 (стацьця „ці мы дзелім“) аўтар — пэўнеж з дазволу ідэйных кіраўнікоў „Сялянскага Саюзу“ — іранічна адказвае: „**Нямашака жаднага супольнага сялянска-работніцкага жыцьця**“!.. Ведама ж, калі няма ніякага супольнага жыцьця, дык ня можа быць і ніякае супольнае барацьбы. Дый як можна гаварыць аб еднасьці, калі работнікі „выкарыстоўвалі заўсёды сялянства ў сваіх мэтах, акуратна таксама, як выкарыстоўвала сялян і буржуазія, вызваляючаяся калісь ад фэодалізму“.

„Ад работніцкіх арганізацый,—піша аўтар стацьці,—мы не спадзяёмся дабра беларускім работнікам, а сялянству ад іх—**чыстая згуба**“.

Трэба ў канцы сцьвярдзіць, што ў усіх сваіх 18 ці нумарох газэта пасла Рагулі найбольш працавала над цкаваньнем сялянства проці мястовага пралетарыяту, забываючыся ў сваім засьляпленьні аб другіх і запраўдных ворагах сялянства—**панох і буржуазіі**...

Можна—хоць і ня трэба!—пісаць усялякія туманныя стацьці, але беларускаму селяніну павінен быць дадзены ясны адказ на пытаньне: на які бок у сьмяротнай барацьбе пралетарыяту з буржуазіяй і абшарніцтвам стаць сялянству, каго выбраць сабе за саюзьніка, каго—за ворага?

„Сялянская Ніва“—орган пасла Рагулі—зрабіла гэты выбар з першага-ж нумару і вядзе раз узятую лінію да канца.

---

Калі пасьля гэтага ўзноў прачытаць прамову пасла Рагулі на мітынгу, — дык запраўды ня можна адразу зразумець: з чаго гэтакі паварот, ці пераварот бярэцца?..

Калі гэта паклон у бок ППС—і брыляўцаў (тож работнікаў!), мо яшчэ ў зьвязку з маючымі адбыцца выбарамі,—дык тады справа ясная: „Сялянскі Саюз“ хоча йсьці на ўгоду, і гутаркі аб еднасьці сялян і работнікаў — ня больш варты, як лёзунгі пэпэсаў аб „работніцка-сялянскім урадзе“.

Тады якраз на мейсцы фраза аб „атруце за здраду“.

Чалавек, які траціць веру сам у свае ўласныя словы, ды ведае, што яны ня маюць запраўднае цаны — пачынае клясьціся і бажыцца, хочучы гэтакім спосабам даць пераконываючую сілу славам. Тады паслу Рагулі можна і далей казаць сялянам адно, думаць самаму другое, а пісаць трэцьцяе, як гэта робяць ППС і іншыя ўгадоўцы. Але калі пасол Рагуля паважна дайшоў да перакананьняў, аб якіх ён казаў сялянам у Любчы, тады трэба зрабіць з гэтага шчырыя і рашучыя вывады.

Першы вывад—той, што труціцца якраз ня трэба цяпер, бо... трэба было раней, тады, як разам з п. Ярэмічам цкавалі ў „Сял. Ніве“ аднаго на другога селяніна і работніка ды аддавалі іх абодвух у вечнае ярмо буржуазіі,—тады, калі п. Рагуля быў запраўды здраднікам сялянскай справы. Не зрабіў гэтага тады, „ня лёг трупам“,—дык няма чаго труціцца цяпер, калі запраўды пасьвятлела ў галаве ды прабудзілася адвага барацьбіта.

Другі вывад той, што, калі няма чаго труціцца, дык трэба кінуць тых, з кім раней атручываў і запаскуджываў розум сялян, уліваючы ім у душы ненавісьць да работніцкай клясы.

Ці зробіць пасол Рагуля гэтыя вывады з сваей прамовы ў Любчы,—вось мы і паглядзім. А тады будзем судзіць разам з усім беларускім сялянствам аб шчырасьці і паважнасьці яго прамовы.

---

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# У Сойме і каля Сойму.

## Узнаўленьне паседжаньняў Сойму.

У аўторак, 22 чэрвеня, меў сабрацца на кароткі час Сойм. Урад Бартля паставіў Сойму вельмі абмяжаваныя задачы, вызначыўшы час яго працы толькі да 4 ліпня.

Мы ўжо пісалі, што Сойму загадана — прыняць праект зьмены Канстытуцыі і бюджэт на наступныя тры месяцы бягучага году. Ці паслухаецца Сойм у-ва ўсім рашучых загадаў ураду, або таго, хто стаіць за плячыма Бартля, ды яго пагрозы — „жондзіць батэм“, гэта яшчэ няведама. Няведама перадусім дзеля таго, што для прыняцьця зьмены Канстытуцыі трэба ня звычайнай большасьці галасоў, але дзьвюх трацін. Гэткім чынам, правясьці зьмену Канстытуцыі не магла-б навет тая большасьць, якую мела ў Сойме хэўра Хіена-Пяст разам з работнікамі-нацыяналістамі, а навет разам з рознымі „лявіцовымі“ групамі заўзятых пілсудчыкаў. Радыкальныя сялянскія групы, пэпэсы і нацыянальныя меншасьці могуць заўсёды сарваць кожнае галасаваньне, разьбіўшы ўвесь урадавы праект—„манархізацыі ўлады прэзыдэнта“...

Больш цьвяроза-дэмакратычная польская і няпольская прэса адзначае, што павялічэньне ўлады прэзыдэнта—коштам правоў Сойму — узапраўднасьці вытварыць у Польшчы толькі павялічэньне і без таго вялікай улады – бюракратыі, зробіць яе запраўды—самадзяржаўнай, якой была бюракратыя расейская ці аўстрыяцкая, не зрабіўшы яе гэтым лепшай па сутнасьці,—як абедзьве тыя... І цяпер польская бюракратыя не баіцца Сойму, а пасьля зьнявагі ды абмяжаваньня Сойму ў яго праве кантролю выканаўчай улады—ня будзе жыцьця ў Польшчы. Ня будзе, ведама-ж, перадусім нацыянальным меншасьцям, якім і цяпер так „соладка“ жывецца... Не памогуць тут ні „маральныя рэформы“, ні такое-ж „адраджэньне“, ні, зразумела, розныя лібэральныя цыркуляры міністраў... Калі Сойму, навет такому, як ён ёсьць, будзе заткнута горла, дык „адказны перад прэзыдэнтам“ урадовец будзе рабіць усё, што захоча, а вышэйшыя будуць яшчэ больш шчыльна хаваць ды пакрываць ніжэйшых...

Дзеля таго трэба думаць, што проці спробы абмяжаваць правы Сойму навет у нашым пакорным, зубамі трымаючымся за пэнсіі, Сойме будзе пэўная барацьба.

---

Калі што добрае зрабіў Пілсудскі сваім „пераваротам“, дык — тое, што, „адсунуўшы гэтых паноў“, жыраваўшых на яго іменьні і пралетарыяце, зрабіў з пэпэсаў крыху больш—апазіцыйную партыю.

Яшчэ толькі што перад пераваротам пасол Дашыньскі выпусьціў лякайска-пахвальную брашурку-оду ў чэсьць марш. Пілсудскага, а цяпер—паслухайце, што піша той-жа правадыр П П С у „Работніку“:

„Можа быць, што польскі Сойм на сьвіст „бата“ (бізуна) пryме ўсё, што яму прыкажуць,—пryме толькі дзеля таго, што яму пагражаюць „батам“... Але ў гэтым Сойме сядзяць сябры ППС, якая... — далей ідуць пахвальбы гэтай партыі, а пасьля: „Гэткая партыя ня можа слухаць дый ня будзе слухаць „довадаў бата“...—Да яе ня можна зварачацца з дрэннымі пагрозамі ўрадавай прэсы (здаецца,—першыя пагрозы ішлі ня з боку ўрадавай прэсы, але з значна вышэйшага мейсца)... Ей трэба вылажыць чалавечыя, але не сабачыя довады“...

І вось навет заўсёды цэзарыстычна-лякайская партыя былых пілсудчыкаў заяўляе, што перастала баяцца „сабачых довадаў“—пагрозаў „жондзіць батэм“.

Аб меншасьцях і казаць няма чаго. Навет жыдоўскі клюб ня хоча лішне павялічываць правоў польскай бюракратыі—пад відам „пашырэньня ўлады прэзыдэнта“. Дык можа пройдзе лёгка толькі закон аб праве прэзыдэнта распускаць Сойм, дый то—на пэўных абмяжаваных варунках. Ці здаволіцца гэтым урад Бартля, прэзыдэнт і той, хто стаіць за імі, няведама.—Паглядзім.

У кожным разе паседжаньні Сойму маюць быць цікавымі.

## Марш. Ратай рашуча заявіў аб сваей адстаўцы.

Марш. Сойму Ратай заявіў рашуча журналістам, што адмовіцца ад становішча старшыні Сойму. Гэта тлумачыцца тым, што ён, як пастаўлены на варце годнасьці Сойму, ня можа згадзіцца на зьмяншэньне яго аўтарытэту—рознымі „сабачымі довадамі“, пагрозамі ці законапраектамі.

## Пагрозы прэм'ера і прэзыдэнта.

Прэм. Бартэль заявіў, што, калі яго праекты ня будуць прыняты Соймам, дык ён падасца ў адстаўку. „Пэўная прэса“ паведамляе, што тое-ж мае зрабіць і прэзыдэнт Рэспублікі.

## На чым хочуць выехаць угадоўцы.

Правацыры PPS і NPR (яшчэ больш правыя) зьвяртаюцца да работнікаў толькі тагды, як буржуазія наплюе ім у вочы, і толькі на тое, каб, ашукаўшы работнікаў ды маючы за сабой сілу, узноў таргавацца з буржуазіяй і прадаваць інтэрэсы работнікаў.

Так цяпер нат парлямантарны клюб Н.П.Р. выказаўся за распушчэньне Сойму і новымі выбарамі. Пэпэсы-ж яшчэ больш рухлівыя. Яны прызываюць на дзень 27 гэтага месяца ўсе свае партыйныя арганізацыі да ладжаньня мітынгаў з мэтай падтрыманьня дамаганьняў пэпэсаўскіх паслоў.

# У Польшчы.

## Прысуд у справе забойства б. мін. Ліндэ.

Забойцу б. міністра Ліндэ (эндэка), жаўнера Чмялеўскага, суд засудзіў на 10 гадоў катаргі.

## Узноў праліта кроў.

Як даносіць „Robotnik“ (№ 167), 19 гэтага месяца ў Грудзіондзу распачалася забастоўка на трамваях, газоўні і электроўні.

Штрэйкбрэхерам, якія хацелі пусьціць у рух некалькі вагонаў трамваю, работнікі перашкодзілі. У абароне іх стала паліцыя, якая, ня доўга думаючы, пачала страляць у сабраўшуюся таўпу. Колькінадцаць асоб ранены, арыштаваны 5 работнікаў.

## Забастовачны рух.

Побач з трываючай забастоўкай у Езёрне, 16 гэтага месяца кінулі працу работнікі хімічнай фабрыкі ў Тархоміне, Яблоннай гм. Дамагаюцца яны падвышкі платы і прыняцьця да працы зрэдукаваных 34 работнікаў.

---

У Остроўцу: пасьля растрэлаў работнікаў фабрыка мусіла выкінуць інжэнера Лігензу.

Адносна варункаў платы вядуцца перагаворы.

Як пішуць газэты, уласьнікі згодзіліся-б на падвышку толькі пры тым варунку, калі ўрад выпаўніць усе заказы.

---

На фабрыцы „Pocisk“ работнікі вярнуліся да працы. Адзіным заваяваньнем пакуль-што ёсьць уступленьня капіталістаў у перагаворы з прафэсіянальным саюзам, ад чаго спачатку яны адмаўляліся.

---

У жыдоўскіх пякарнях у Гродзіску 8 г. м. забаставалі работнікі. Дамагаюцца яны 8 гадз. дня працы і падвышэньня платы.

Дагэтуль іхнае палажэньне было асабліва цяжкае. Атрымлівалі яны, працуючы колькінадцаць гадзін у суткі, 4 разы менш за іншых работнікаў пякарняў.

Забастоўка трывае.

## Урад падрыхтоўвае праект амністыі...

Прэм. Бартэль заявіў прышоўшым да яго прадстаўніком клюбаў меншасьцяў, што ўрад апрацоўвуе праект амністыі палітычным вязьням. Праект мае спыніць кару перадусім прадстаўнікам нацыянальных меншасьцяў, якіх праступленьні зьвязаны з барацьбой за нацыянальныя правы... Цікава тут перадусім тое, што ўрадава сьцьверджаным зьяўляецца факт, засуджываньня прадстаўнікоў нацыян. меншасьцяў за барацьбу за нацыянальныя правы.

Аднак, прымаючы пад увагу, што блізу ў-ва ўсіх беларускіх працэсах справу вызваленьня суд зьвязываў з камунізмам, трудна спадзявацца нейкіх вялікшых вынікаў амністыі для беларускіх барацьбітаў.

## „Каранныя рэформы“ ў міністэрстве ўнутраных спраў.

Міністэрства ўнутраных спраў мае быць рашуча перастроена. Рэформа мае пайсьці ў напрамку дэцэнтралізацыі,—гэта значыць, што цэнтральныя-варшаўскія — ўлады шмат сваіх правоў перададуць мясцовым (ваяводам). Але тую-ж дэцэнтралізацыю зробяць у сябе і паны ваяводы, перадаўшы шмат з сваей улады панам старостам. Паны старосты перададуць далей. Дык урэшце над нашым многа-пакутным крэсавым хлебаробам стане, як цар і бог, — як сам міністар, ваявода і староста ў аднэй асобе—той самы пастэрунковы, які, здаецца, і цяпер ня можа пажаліцца, што мае замала ўлады над жыцьцём і сьмерцю жыхараўсялян свайго „акалодку“...

# Заграніцай.

## Дэманстрацыі ў Коўне.

12 с. м. адбыўся ў Коўне суд над сябрамі „работніцкай групы“. Усіх іх звольнілі. Пасьля прыгавару нядаўныя падсудныя і цэлыя тоўпы прысутных на судзе над работнікамі наладзілі паход, сьпяваючы „Інтэрнацыянал“ і „Варшавянку“. Энтузіязм быў такі вялікі, што спроба паліцыі разагнаць паход—не ўдалася. Перад будынкам управы прафэсіянальных саюзаў было зроблена веча, на якім выступалі толькі-што выпушчаныя работніцкія правадыры.

На другі дзень дэманстрацыі паўтарыліся. А 1 гадз. на пляцу каля Ратуша сабраліся тысячы людзей. Адбыўся мітынг, а пасьля яго ўчасьнікі з чырвоным штандарам наперадзе пайшлі пад турму, дамагаючыся звальненьня рэшты палітычных вязьняў.

Зноў умяшалася паліцыя і зноў мусіла адступіць, абкіданая каменьнямі, страляць яна не адважылася.

Была вызвана пажарная каманда, якая мела разагнаць дэмастрантаў пры помачы патокаў вады, але пажарнікі не захацелі выпаўніць гэтай ганебнай работы і не падчыніліся загаду.

Монархістычнае віленскае „Słowa“ дзівіцца „бясчыннасьці“ ковенскай паліцыі і на пацеху сабе тлумачыць узрост сілы і арганізованасьці работніцкай клясы ў Літве тым, што яе быццам са злосьці падтрымліваюць хрысьціянскія дэмакраты, адкіненыя цяпер ад дзяржаўнага карыта.

## Няўдача Брыяна. Эрыо творыць урад.

Дагэтуль усе лічылі Брыяна—адзіным чалавекам, які здолее стварыць урад у тым цяжкім палажэньні, у якім апынулася францускае палітычнае жыцьцё, страціўшае апору ў лявіцы парляманту. Брыян, як ведама, пастанавіў рашуча павярнуць направа, каб, замест сацыялістаў, знайсьці саюзьніка—для стварэньня большасьці—сярод правіцы. Гаварылася ўжо аб такім урадзе—„нацыянальнага аб'яднаньня“, які-б ахопліваў у адзіным габінэце такіх ворагаў, як Эрыо і... Пуанкарэ!—Навет іх здалеў быццам ужо пагадзіць дый злучыць „лёкарнскі геній“ Брыяна.

Але ў апошні мамэнт Эрыо папсаваў усю лёкарнскую музыку Брыяна, адмовіўшыся нятолькі ісьці разам з Пуанкарэ, але навет разам з адвакатам апошняга з самым Брыянам... У выніку гэтага Брыян выйшаў у адстаўку, а Эрыо атрымаў ад прэзыдэнта даручэньне тварыць урад. Спроба Эрыо мае быць спробай аднаўленьня левацэнтравага габінэту. Сацыялісты, відаць, ня ўвойдуць у яго склад, бо гэта забараняе ім пастанова апошняга кангрэсу. Але нічога немагчымага няма ў тым, што нейкае паразуменьне з імі Эрыо спрабуе зрабіць.

Што будзе далей, паглядзім. Цікава ўжо і тое, што рашучы нахіл управа ў Францыі пакульшто зышоў „на нет“.

## Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

Англійскі ўрад, салідарызуючыся ад першага дня забастоўкі з капіталістамі—і змагаючыся з работнікамі, рыхтуецца правясьці ў парляманьце пастанову аб прадоўжаньні рабочага дня ў шахтах на адну гадзіну. Урад адначасна падтрымлівае дамаганьне капіталістаў абрэзаць плату на 10 працантаў.

Сярод работніцкіх мас пануе страшэннае абурэньне. Іхныя прадстаўнікі ў парляманьце будуць змагацца з кожным словам закона аб прадоўжаньні рабочага дня.

## Навакол нямецкага плебісцыту.

20 чэрвеня адбыўся плебісцыт, ці ўсенароднае галасаваньне—ў справе адшкадаваньняў сябром былых „пануючых дамоў“ — каралеўскім ды князеўскім патомкам — за канфіскаваныя ў іх рэвалюцыяй маемасьці.

Навакол гэтага плебісцыту разгарэлася цяпер вельмі жыва палітычная барацьба ў Нямеччыне, якая можа павясьці да вельмі значных пасьледзтваў...

Як ведама, урад разам з прэзыдэнтам Гіндэнбургам стаў рашуча на грунт абавязку даць адшкадаваньні за прыватныя маемасьці гэтым князям. Дык ведама-ж, калі народ у большасьці выскажацца за адабраньне бяз выкупу, тады як урад, так сама мо' і прэзыдэнт выйдуць у адстаўку... Але магчыма, як пішуць урадавыя газэты, што і ня выйдуць, але будуць далей праводзіць сваі пагляды...

## Змова проці Кемаль-пашы.

Турэцкай паліцыяй выкрыты загавор на жыцьцё турэцкага прэм'ера Кемаля.

## Проці аграрных мыт у Чэхаславаччыне.

Пасьля бітваў на вуліцах Прагі — ў Кладне адбылася кароткая агульная забастоўка на знак пратэсту проці аграрных мыт.

# Хроніка.

**Суд над беларусамі.** 18/VI у Акружным Судзе ў Вільні адбыўся суд над шасьцю беларусамі: 1) вуч. Янчуковічам Мікалаем з в. Сьвірыдавічы, Смаргонскай гм., Ашмянскага пав., 2) Куліцкім Юльянам, 3) Трызнай Віцэнтам, 4) Дубіцкім Уладз., 5) Янкай Грышаном і 6) Міхалам Траскоўскім (—усе Ашмянскага пав.).

Абвінавачвалі іх у „камуністычнай“ дзеяльнасьці. Сьведкамі былі, як заўсёды цяпер у гэтакіх выпадках, толькі агенты дэфэнзывы ды правакатары.

Баранілі падсудных адвакаты Родзевіч і Андрэеў.

Янчуковіча засудзілі на 2 1/2 гады а Куліцкага на 2 гады і 3 месяцы вастрогу, залічыўшы абодвым па 7 мес. папярэдняга арышту. Рэшту апраўдалі.

Гэты працэс, як гэта ўжо сыстэматычна практыкуецца ў-ва ўсіх беларускіх палітычных працэсах,—адбыўся пры зачыненых дзьвярох.

**Мамонька „за работай“.** Пасьля нашых заметак аб эсэраўскім высланцу Мамоньцы, які, як выявілі польскія газэты, прыехаў з Коўны нюхацца з дэфэнзыўнай арганізацыяй Павлюкевіча, — гэны пан меў столькі бясчэльнасьці, што зьявіўся ў нашу Рэдакцыю, трэбуючы, каб мы запярэчылі паданым польскай прэсай весткам аб ім. На прапазіцыю Рэдактара, каб перш сам запярэчыў у „Słowie“ і „Kur. Wil.“,—Мамонька адказаў, што ня можа зрабіць гэтага, бо ён быццам знаходзіцца ў Польшчы **„нелегальна“**. Дый нам свайго запярэчаньня на пісьме **не падаў**.

А вось, надовячы, Мамонька — на падставе рэкамэндацыі п. п. Павлюкевіча „дохтара“ атрымаў ад пана камісара ўраду Вімбара пашпарт і адразу-ж прыступіў да „працы“: ён у кампаніі з

але апрача таго моцна пабіты. Твар арыштаванага быў сіні, пад вачыма крывавыя затокі і нат' некалькі крывавых разьбітых ран відаць было на твару. Скуль і хто гэта быў, я не даведаўся, але, угледаючыся на пакрыўджанага, я плакаў. Твар яго да гэтага часу стаіць у вачох маіх.

**Падарожны.**

## Даўгінаўская гміна.

(Вялейскага пав.).

Даўгінаўская гміна ляжыць на ўсход ад чыгункі Седлецк-Балагое ў 16 кілямэтрах ад станцыі Будслаў. Кацярынінскі тракт Маладэчна—Глыбокае перарэзывае яе папалам, а рака Вяльля працякала калісь якраз пасярод яе. Зямля мяйсцамі ўраджайная (яна ўся ў руках абшарнікаў), але ў большасьці „мох, балота, ды пясок", — гэта і належыць сялянам. З сваей гаспадаркі сялянам ніколі пражыць было не магчыма. У помач ім былі нашы рэкі: Вяльля, Дзьвіна, якія спрадвеку служылі гэтаму закуцьцю за найвыгаднейшыя і найдзешавейшыя дарогі дзеля сплаву лесу і іншых грузаў. Вясной і летам прыбярэжныя сяляне мелі на гэтых рэках сякую-такую працу, што праўда, цяжкую, але якая давала ім магчымасьць зарабіць так патрэбны ў нашай беднаце лішні грош. Апрача таго людзі займаліся тут рыбацтвам; злоўленую рыбу досьць выгадна прадавалі ў блізкіх мястэчках і гэтым таксама памагалі свайму гору. Але наляцеў 1921 год. Рэжучы ў Рызе жывое цела Беларусі папалам, палякі пастараліся, каб граніца паміж Польшчай і Саюзам Радавых Рэспублік прахадзіла пераважна па рэках, і цэлы сьцяг прырэчных вёсак Даўгінаўскай гміны апынуўся раптам на самай граніцы. Аб папярэднім сякім-такім жыцьці застаўся толькі адзін салодкі ўспамін. Заработкі зьніклі, бо гнаць дрэва па пагранічных рэках перасталі — з тэй простай прычыны, што ўсе блізкія і спадручныя да Даўгінаўскай гміны лясы засталіся пераважна ў Саюзе Радавых Рэспублік, а рыбу лавіць бяз пропуску ад вайсковых уладаў таксама нельга. Такія пропускі на лоўлю рыбы выдаюцца камэндантамі пагранічных варт заўсёды толькі аднаразовыя. Да пропуска ў прыдачу даецца салдат з стрэльбай, які ня столькі сачыць за селянінам, каб ён не перайшоў на савецкі бераг ракі, колькі каб злоўленую рыбу акуратна падзяліць папалам (палавіну камэнданту, а палавіна ато і меншая часьць лаўцу). І гора таму, хто стараецца якім-небудзь спосабам гэту „даніну" абрэзаць (напрыклад: часьць рыбы схаваць у кусты і забраць яе пасьля ціхачом). „Пакрыўджаны" пан камэндант другі раз ужо такому чалавеку лавіць рыбу не пазволіць; а калі зловяць каго, ідучы ўжо бяз пропуску па схаваную рыбу к рацэ, то абвінавацяць у спробе пераходу граніцы, або ў кантрабандзе, ці чымсь пахожым і... пасадзяць на шэсьць месяцэў у вастрог. Да ўсяго гэтаге дамяшалася яшчэ і адсутнасьць лесу. Адвечны лес за якіх паўвярсты ці вярсту высокай густой сьцяной упіраецца ў неба і вабіць к сабе гаротнага селяніна сваей зеляньню і шумам сваей адвечнай песьні. Але ён няпрыступны: ён блізка, а разам і далёка, бо ён—за Радавай граніцай. „Дрэва-ж і дровы прыходзіцца сялянам вазіць за якіх вёрст 15-20 і плаціць розным панам тройчы дорага.

А падаткі растуць і растуць, асьвета ж ідзе ў заняпад, бо няма добрых школ, няма ў нас і грошы, каб ехаць у сьвет іх шукаць і там вучыцца. Затое шынкаў яўных і тайных у Даўгінаве маем на кожным кроку. Там ад гора і бяды ўдзень ці ўначы, у будні ці ў сьвята—за апошні няраз грош кожнаму дадуць „лекаў".

Пад цяжарам гэтай граніцы і такіх варункаў жыцьця людзі, што перш на адзін успамін аб вайне дрыжэлі ўсім сваім целам, пачынаюць „маліцца Богу", каб хтось небудзь як найскарэй неяк перасунуў так ці сяк граніцу. А побач з намі на зямлі тутэйшых двароў сядзяць абшарнікі і асаднікі, якія, з карабінам у руцэ, „шчыра моляцца" аб яе захаваньні.

А пасол Аўсянік (ураджэнец тутэйшай гміны) п'е гарэлку, нюхаецца з „доктарам" Павлюкевічам і аб усім гэтым маўчыць. **Б. Свой.**

## Юрыдычныя парады.

**Падпішчыку № 1816.** Маці мае права на $^1/_7$ часьць, дочкі таксама каждая на $^1/_7$ (апрача тых, каторыя ў Расеі), а дзеці брата на рэшту маемасьці г. з. на $^4/_7$.

**Т. Троцкаму.** *Запытаньне*: Я праслужыў у маёнтку 8 гадоў бясплатна, абшарнік абяцаў даць зямлі і пляц (на гэта ёсьць сьведкі), а цяпер высяляе бяз ніякай заплаты і... зямлі. Ці можа высяліць?

*Адказ*: Высяліць можа, а за службу трэба Вам дахадзіць судом.

**Адаму Яцэвічу.** Жонка брата мае права на $^1/_7$ частку зямлі і будоўлі і на $^1/_4$ інвентара і скаціны; рэшта павінна перайсьці да братоў.

**Я. Рагачу.** *Запытаньне*: Мой бацька гадоў 50 назад падзяліўся з братамі, заставіўшы сабе толькі будынак, а зямлю па слабасьці свайго здароўя аддаў братом, каторыя ёй карысталіся да вайны. У 1912 годзе я падаў у суд і справу прайграў; была пададзена апэляцыя, але выбухнула вайна і справа асталася ня вырашанай. З 1915 году я карыстаю з тэй часткі зямлі, каторая прыпадала майму бацьку. Мае зродныя браты хочуць адабраць гэту зямлю, апіраючыся на тым, што мой бацька ёю не карыстаўся.

*Адказ*: Калі браты давалі што-небудзь бацьку за карыстаньне з зямлі, дык можаце гэту справу выйграць; калі бацька аддаў зямлю братом на ўласнасьць, дык цяпер права да яе ня маеце.

**Падпішчыку № 207.** Старшая сястра мае права на $^1/_2$ бацькаўшчыны, а пасаг які яна атрымала, трэба ад гэтай палавіны адлічыць.

**Міхалу Лебедзву.** Калі больш 10 гадоў вёска не карысталася з гэтых урочышчаў, дык цяпер вярнуць ня можна.

**Падпішчыку № 2722.** Калі зямля куплена таварыствам, дык падзел мусіць быць зроблены на сходзе таварыства; калі ў купчай сказана, што правы ўсіх сяброў таварыства роўныя, дык Вашы праціўнікі могуць цяпер трэбаваць меншага куска роўныя часьці.

**Падпішчыку № 287.** *Запытаньне*: Куды зьвярнуцца рабочым, каторыя доўгі час працавалі ў купца і не атрымалі ніводнага граша заплаты?

*Адказ*: У суд.

**Кастусю Ханупцы.** Трэба прасіць Акружны Суд, каб хутчэй разглядзеў справу; да рашэньня Акружнага Суда нічога зрабіць ня можна.

**Няшчаснаму.** Зьвярніцеся да Павятовага Староства.

**Падпішчыку № 132.** Калі зямля была бацькава, дык маці ніякіх запісаў рабіць ня мае права.

## Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад:—Веры Дудко, Пятра Гульніцкага, А. Цярэнцьева, Яна Кліма—**па 1 злоту.**

Ад: — Яна Логоша, Рыгора Дудкі і Аляксандра Бізюка—**па 1 зл. 50 грошы.**

Ад:—Міхала Ваські, Мікалая Моніча, Яна Ходаса, Мірона Альшэўскага, Мікалая Малайчука, Тодара Будавея, Ёселя Каплана, Міхала Сідаровіча, Астапа Жышкі, М. Зёнтка, Андрэя Міхальчука, Е. Бярэзьняка, Навума Бурбіцкага, Язэпа Лысоўскага, Уладзіміра Ваўкавыцкага, Пятра Рамановіча, кс. Вішнеўскага, Яна Дэбуша, Якуба Мікуліча, Д. Касьцюка, Міхала Сурмача, Тодара Бубена, Язэпа Мішчуна, Грыцкевіча, Яна Качэргіна, Мікалая Дзейкі, Міхала Гэрмановіча, Вінцэнтага Акалота, Мікалая Сёмухі, Ігната Асемкевіча, Яна Жука, У. Кулеша, Міхала Скока, Язэпа Наумовіча, Сьцяпана Рагача, Міхала Сьцепановіча, Мікалая Грыцука, Сяргея Сакалоўскага, Міхала Саломіча — **па 2 злотых.**

Ад:—Базыля Хадзевіча, Міхала Міцкевіча, Аляксандра Шчэкалы, Мікалая Засіма, Алякс. Жука — **па 2 зл. 50 гр.**

Ад:—Антона Жыха, Мікалая Лебедзінскага, Паўла Ваўкавыцкага, Базыля Шпака, Канст. Ждановіча, Ф. Нестара, Рыгора Кастусіка, Янкі Калнауса, Яна Міцкевіча, Міхала Богана, Ксавэрага Рамэля, Яна Тычкі, У. Дракуна, Яна Жарскага, Гальяша Белевіча, І. Лук'янёнка—**па 3 злотых.**

**У справах арганізацыі на мяйсцох Гурткоў**

**Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады**

**належыць зьвяртацца па адрэсу:**

**Wilno, ul. Wileńska Nr. 12, m. 7**

**Цэнтральны Сэкрэтарыят Грамады.**

**Сэкрэтарыят Грамады адчынены ад 7 гадз. раніцы да 10 вечара што-дня, не выключаючы сьвятаў.**

## Да Сяброў Т-ва Беларускае Школы.

Гэтым Цэнтральная Беларуская Школьная Рада просіць паважаных Сяброў Таварыства паклапаціцца ўнесьці ў касу Таварыства належныя Сяброўскія складкі.

УВАГІ: 1) Тыя Сябры, якія маюць акрэсьлены заробак, згодна пастановы Агульнага Сходу Сяброў Таварыства 15. XI. 1925 г., уносяць 1 процант месячнага заробку, а тыя сябры, якія ня маюць акрэсьленага заробку, уносяць ня меньш як 50 грош. у месяц. 2) Грошы прымаюцца ў Школьнай Радзе (Віленская вул. № 12—6) ад 9 гадз. раніцы да 12 гадз. дня.

**Цэнтр. Белар. Школьная Рада**
**Вільня, Віленская 12—6.**

28 траўня 1926 г.



# Таварыства Беларускае Школы у Вільні.

## Гурткі і Акружныя Управы.—Арт. IV.

Паводле статуту Таварыства § 14, у вёсках і мястэчках могуць закладацца асобныя Гурткі дзеля правядзеньня ў жыцьцё таго, ці іншага заданьня Таварыства, прыкладам: каб арганізаваць і ўтрымліваць чытальню, ці бібліатэку, ці адчыніць прыватную беларускую школу ніжэйшую або сярэднюю, арганізаваць курсы і г. д.

Дзеля арганізацыі Гуртка трэба, каб было ня меньш як 10 чалавек, як сяброў запраўдных і калі Акружная Управа, ці за яе адсутнасьцю Галоўная Управа ў Вільні прызнае патрэбным арганізацыю Гуртка.

На чале кожнага Гуртка стаіць Управа, якую выбірае Агульны Сход сяброў гэтага Гуртка.

Гурткі злучваюцца ў Вокругі. Прастор дзеяльнасьці Вокругу азначае Галоўная Управа Т-ва.

На чале кожнага Вокругу стаіць Акружная Управа, якую абірае Акружны Сход, які складаецца з дэлегатаў усіх Гурткоў данага Вокругу (§ 15).

### Агульныя Сходы

Гурткоў і Вокругаў склікаюць Управы тыхжа Гурткоў і Вокругаў, звычайныя г. значыць дзеля справаздачы аб працы за год адзін раз на год і надзвычайныя—у меру патрэбы (§ 16).

### Як закладаць Гурткі і Акружныя Управы.

Паводле § 16 Статуту Таварыства, Гурткі і Вокругі арганізуе Галоўная Управа Таварыства.

Калі ў тэй ці іншай мясцовасьці ня меньш як дзесяць сяброў дзеля выкананьня якога-колечы заданьня Таварыства знойдуць патрэбным арганізаваць Гурток Т-ва Беларускай Школы, то трэба зьвярнуцца да Галоўнай Управы ў Вільні, каб яна гэты Гурток легалізавала, ці зацьвердзіла перад Уладаю.

Атрымаўшы паведамленьне і просьбу аб жаданьні арганізаваць Гурток, Галоўная Управа ў Вільні, далучаючы Статут, толькі паведамляе адпаведнае Павятовае Староства аб тым, што ў такойта весцы, ці мястэчку, у такі-та дзень у толькі-та гадзін адбудзецца арганізацыйны Сход Гуртка дзеля выбару Управы Гуртка і разгляду іншых пытаньняў пад адпавядзяльнасьцю такога-то сябры, які можа быць і з мясцовых жыхароў, ці з Галоўнай Управы.

Паквітаваньне ад Староства аб прыйме паведамленьня павінна быць у часе сходу ў Старшыні Сходу, каб давясьці паліцыі, што Сход адбываецца законна.

Пасьля Сходу і выбару Управы Гуртка, г. з. Старшыні, Сэкрэтара і Скарбніка, копію пратаколу трэба прыслаць у Галоўную Управу ў Вільню, а Старосту толькі паведаміць, што сходам такога-та чысла абрана Управа Гуртка Таварыства Беларускай Школы ў такім-та складзе: Старшыня NN (імя і прозьвішча), Сэкрэтар NN і Скарбнік і ўказаць кожнага з іх адрэс, а так сама адрэс, дзе будзе зьмяшчацца Управа.

Зрабіўшы ўсе вышэй адзначанае, Гурток ужо будзе лічыцца законным і можа прыступіць да выкананьня тэй ці іншай задачы Таварыства.

### Акружныя Управы.

Закладаюцца гэтакім самым парадкам, як і Гурткі, а толькі на Акружны Сход зьяўляюцца ўжо дэлегаты ад усіх Гурткоў данага Вокругу (§ 16).

Акружны Сход дэлегатаў так сама выбірае Акружную Управу, якая паведамляе адпаведнае Староства, аб складзе Управы і адрэсы сяброў яе.

**Галоўная Управа.**

(Працяг будзе).

## НАВАГРАДЗКАЯ

## Беларуская 8-мі кл. Гімназія

### прырода-матэматычнага тыпу

даводзіць да ведама грамадзянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1926—1927 школьны год ува ўсе клясы Гімназіі адбудуцца ў наступныя тэрміны:

вясною: ад 16-га да 26-га чэрвеня;
восеньню: ад 1-га да 10-га верасьня.

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі, або апякуны.

Да заявы трэба далучыць:

1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;
3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншай гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku" аб дазволе, прылучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Заняткі ў гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.

Навука ў першай клясе бясплатна.

**Дырэкцыя.**

Адказны-Рэдактар: **Ал. Вільчыцкі.** **Друкарня Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**